**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 35 (751) 28 жніўня 2014 года.**
**Кошт свабодны.**

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by




Яблычны фэст у Малых Алашках.
Працяг тэмы на стар.5






## «Увага, дзеці!»: З 25 жніўня па 5 верасня ўсе кіроўцы краіны павінны ездзіць з уключанымі фарамі!

Браслаўскі раён

# Збягае моладзь з вёсак

■ Станіслаў Раманчук

**Велізарныя сродкі ўклала апошнім часам дзяржава ў адраджэнне і развіццё беларускай вёскі, правяла і забеспячэнне гаспадарак новай тэхнікай.**

Аднак ні павышэнне даходаў вяскоўцаў, ні паляпшэнне інфаструктуры іх быту ў створаных аграгарадках не дапамаглі вырашыць галоўную задачу замацавання маладых кадраў на зямлі. З падобнай праблемай сутыкнулася і нават лепшая гаспадарка азёрнага краю "Маяк Браслаўскі". А гэта ж сельгаспрадпрыемства – адно з лепшых у вобласці, толькі ворнай зямлі мае 4,5 тысячы гектараў а яшчэ ўласны камбікормавы завод і каўбасны цэх, буйны свінакомплекс, ладныя фермы для 3 тысяч кароў. У адрозненне ад іншых гаспадарак, заробкі ў старанных працаўнікоў высокія, стараюцца забяспечваць маладыя сем'і і маладых спецыялістаў жыллём. Хто прыязджае сюды працаваць пасля арміі, альбо жэніцца, атрымоўваюць значную матэрыяльную падтрымку за кошт гаспадаркі. Для маладых узвялі і добраўпарадкаваны інтэрнат. Аднак нягледзячы на ўсе даброты, нават у гэтай моцнай гаспадарцы адчуваюць дэфіцыт кадраў, з задавальненнем прынялі б на працу заатэхнікаў, інжынераў, ветурачоў. На жаль, маладыя людзі не бачаць для сябе на вёсцы перспектыў, бягуць адсюль у горад. Разлічвалі тут на двух маладых спецыялістаў, выдзелілі ім пасля размеркавання кватэры з усімі зручнасцямі і нават бытавую тэхніку не трэба было ім самім купляць. Аднак абодва на Браслаўшчыне доўга не затрымаліся: адзін пайшоў у армію і не вярнуўся, а яго калегу прыйшлося звольніць за наўмысныя прагулы…

Пастаўскі раён

# З даўжнікамі не цырымоняцца

■ Кастусь Александровіч

**У адрозненне ад суседзяў, у Беларусі стараюцца ў жыллёва-камунальнай сферы пакуль тарыфы для насельніцтва павышаць паступова з улікам узроўню заробкаў па краіне.**

І толькі нядаўна з увядзеннем новага Жыллёвага кодэкса сталі прымяняць жорсткія меры ўздзеяння супраць злосных неплацельшчыкаў. Вось і ў Пастаўскім раёне яшчэ летась па рашэнні суда пазбавіліся свайго жылля двое кватэраздымшчыкаў. Здавалася, што такая суровая мера стане папярэджаннем для іншых жыльцоў, якія апусціліся, банальна спіліся і забываліся плаціць за камунальныя паслугі. Аднак і сёлета на Пастаўшчыне ў пачатку жніўня заставалася 67 неплацельшчыкаў з даўгамі на працягу трох месяцаў, якія завінавацілі ЖЭУ больш 65 млн. рублёў. Пры гэтым яшчэ тры сям'і ў райцэнтры ў гэтым годзе зноў выселены судом з займаемых добраўпарадкаваных кватэр за вялізныя даўгі з прадастаўленнем, праўда, іншага жылля меншай плошчы і камфортнасці. Таксама раённы суд папярэдзіў яшчэ сем злосных даўжнікоў па жыллёва-камунальных плацяжах, што і іх могуць выселіць з займаемых памяшканняў. Цікава, што адзін з іх пражывае ў пакоі ў інтэрнаце і можа неўзабаве ўвогуле апынуцца на вуліцы. Таксама ў прымусовым парадку можа быць выстаўлена на продаж за неплацяжы і кватэра жыхара гарпасёлка Варапаева, хоць ён не прыватызаваў. Акрамя саміх пастаўчан злосныя даўжнікі па аплаце паслуг ЖКГ жывуць яшчэ ў аграгарадках Навасёлкі, Курапалле, Парыж і ў шэрагу вёсак раёна. І ў далейшым усім прыйдзецца плаціць за жыллё болей, асабліва тым, хто мае лішкі жылой плошчы і хто пражывае ў інтэрнатах, бо для іх дадаліся налічэнні на капітальны рамонт.

Віцебск

# Чакае новы правал?

■ Чэслаў Якубовіч

**Апошнім часам пра Віцебск па краіне пайшлі іранічныя размовы, што гэта самы не спартыўны беларускі горад, дзе клубы па гульнявых відах спорту – безнадзейныя аўтсайдары з-за хранічнай нястачы грошаў.**

Ніколі яшчэ такога не было, каб 3 гады запар футбольная каманда з абласнога цэнтра не была прадстаўлена ў вышэйшай лізе нацыянальнага першынства. Перад мясцовым ФК "Віцебск" сёлета нарэшце паставілі задачу вярнуцца ў эліту. Аднак яшчэ ў сярэдзіне лета адправілі ў адстаўку галоўнага трэнера Юрыя Канаплёва за невыразную гульню і слабыя вынікі. Кіраваць камандай стаў яго памочнік, майстар спорту Сяргей Вехцеў, дазавялі яшчэ трох вопытных ігракоў. Аднак віцябляне працягваюць засмучаць сваіх прыхільнікаў, нават дома прайгралі з лікам 0:1 канкурэнтам на павышэнне ў класе з Рэчыцы і апусціліся на 5-е месца ў турнірнай табліцы. За 14 матчаў да канца сезона яны ўжо на 8-9 ачкоў адставалі ад двух лідараў, якія атрымаюць пуцёўкі на выхад у элітны дывізіён. Самае сумнае, што вялікі абласны горад саступае камандам нават маленькіх гарпасёлкаў Гарадзеі і Мікашэвічам, дзе футбалісты карыстаюцца падтрымкай і пашанай. У Віцебску ж моцныя ігракі гуляць не імкнуцца з-за дрэннай рэпутацыі гэтага клуба. Шанцы на тое, каб віцябляне патрапілі ў пераходныя матчы на павышэнне ў класе, мізерныя, але калектыў, як запэўніў на брыфінгу для СМІ дырэктар клуба Мікалай Вайцюхоўскі, будзе змагацца да апошняга тура, каб горад ганарыўся сваім футболам.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 28.08.14 | | | | Пятніца 29.08.14 | | | | Субота 30.08.14 | | | | Нядзеля 31.08.14 | | | | Пн.01.09. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +12 | +13 | +15 | +13 | +12 | +13 | +16 | +13 | +11 | +13 | +16 | +11 | +8 | +11 | +15 | +12 | +8 | +11 | +14 |
| Ціск | 739 | 740 | 740 | 742 | 742 | 744 | 745 | 746 | 746 | 747 | 747 | 748 | 749 | 750 | 751 | 751 | 752 | 753 | 753 |
| Вільготнасць | 95 | 90 | 75 | 84 | 93 | 91 | 66 | 87 | 93 | 90 | 67 | 91 | 97 | 95 | 65 | 83 | 88 | 79 | 56 |
| Вецер м/сек | 3 З | 5 З | 6 З | 4 З | 4 З | 3 Пн-З | 3 Пн-З | 2 Пд-З | 3 З | 3 З | 3 З | 1 Пн-З | 1 Пн-У | 3 Пн-У | 3 Пн-У | 4 У | 3 У | 3 У | 4 Пд-У |

# Аб самым надзённым

## БЕЛАРУСАМ ТРЭБА РЫХТАВАЦЦА ДА МАШТАБНАЙ РЭФОРМЫ ЖКГ І ДА РОСТУ КОШТУ КАМУНАЛЬНЫХ ПАСЛУГ




■ Аляксандр Цішкевіч

**Усе арганізацыі, якія абслугоўваюць жыллёвы фонд, неўзабаве пачнуць пералічваць плату за капрамонт на рахункі мясцовых органаў кіравання. Атрымоўваецца нібыта адзін агульны кацёл, а на месцах рай(гар)выканкамы лепей ведаюць, якія з соцень дамоў жылфонду патрабуюць капрамонту і мадэрнізацыі.**

Звычайна штогод летам значных падзей і ўзрушэнняў не бывае, бо ў гэту пару наступае перыяд масавых водпускаў у палітыкаў, дэпутатаў і ва ўпраўленцаў рознага рангу. Сёлетні вельмі гарачы жнівень стаў выключэннем, а беларусы дзякуючы ідэальнаму спякотнаму надвор'ю пасняхова правялі жніво, калі толькі на фінішнай уборцы так заліло сталіцу, што там прыйшлося ўводзіць спецыяльны план выратавання мінчан "Пасейдон". Наша краіна будзе з хлебам і, здаецца, збожжа атрымаюць усе рэгіёны болей, чым летась, а ў цэлым па Беларусі - на 2 млн. тон больш да ўзроўню 2013 года.

Па-ранейшым адносіны нашых бліжэйшых суседзяў Расіі і Украіны застаюцца вельмі варожымі, краіны балансуюць на мяжы сапраўднай вайны. Праўда, у самім Данбасе, нібыта пацукі з тонучага карабля, сталі падаваць адзін за другім у адстаўку самаабвешчаныя псеўдары сепаратыстаў, усе як на падбор з бандыцкімі, няброытымі тварамі. У сувязі з санкцыямі ў адказ Захаду, а фактычна аб'яўленнем У. Пуціным галоднай вайны свайму народу, з'явіўся дадатковы шанц у беларускіх калгасаў і прадпрыемстваў айчыннага мясамалпраму болей прадаць прадуктаў харчавання на расійскі рынак.

Цяпер застаецца спажыўцу толькі гадаць, ці не выкліча такое вось імгненне зарабіць з дапамогай Расіі болей валюты дэфіцыт ежы ў беларускіх магазінах, асабліва на перыферыі. А вось што дакладна вядома: айчынная жыллёва-камунальная гаспадарка на парозе сур'ёзнай рэформы А найперш яе наступствы адчуюць радавыя спажыўцы паслуг ЖКГ. Роўна праз паўгода прыйдзецца нам з 1 верасня болей амаль на 10 % плаціць па асноўным камунальным паслугам. Апошні раз ЖЭУ расцэнкі ў рахунках павышалі, як вядома, сёлета 1 сакавіка. Новае павышэнне тарыфаў выклікана зноў індэксацыяй іх з улікам пэўнага росту заробкаў у Беларусі ў 2-м квартале гэтага года.

Таксама камунальшчыкі ўжо ведаюць, што ў іх разгалінаванай, даволі складанай і буйной гаспадарцы будзе праведзена моднае цяпер слоўца "аптымізацыя", лічы масавыя скарачэнні. Абяцаюць улады гэтай галіне, ад якой залежыць камфорт пражывання кожнага з нас, таксама адмову ад няпрофільнай дзейнасці. І нарэшце павінен быць уведзены новы парадак адлічэнняў на капітальны рамонт. Што датычыць апошняга, то тут дакладна вядома куды пойдуць сабраныя ў насельніцтва грошы.

Усе арганізацыі, якія абслугоўваюць жыллёвы фонд, неўзабаве пачнуць пералічваць плату за капрамонт на рахункі мясцовых органаў кіравання. Атрымоўваецца нібыта адзін агульны кацёл, а на месцах рай(гар)выканкамы лепей ведаюць, якія з соцень дамоў жылфонду патрабуюць капрамонту і мадэрнізацыі. У глыбінцы людзі найчасцей звяртаюцца да мясцовага начальства менавіта па гэтых пытаннях з просьбамі дапамагчы, калі працякае дах, альбо дрэнна паступае вада спажыўцам, ці наадварот бывае холадна зімой у пакоях.

На субрахункі па мэтавым прызначэнні будуць пералічваць грошы таксама і жыллёвыя кааператывы і нешматлікія ў нашай краіне пакуль таварыствы ўласнікаў жылля. Па гэтым шляху, услед за намі, дарэчы, пайшла і суседняя Расія. Між тым беларусаў міжволі рыхтуюць маральна да далейшага росту камунальных паслуг. Пакуль насельніцтву даводзяць, што яно аплочвае толькі чвэрць рэальных затрат камунальшчыкаў, а асноўную долю клопатаў бярэ на сябе дзяржава. Праўда, у першым паўгоддзі беларусы замест ранейшых 24,4 % сталі аплочваць ужо 31 % кошту паслуг ЖКГ. Вядома, на гэтым не спыняцца, будзем восенню аплочваць 41% затрат, а затым яшчэ болей з пачаткам новага ацяпляльнага сезона.

Не бывае ў нас, каб чарговыя рэформы не закранялі канкрэтных людзей. Вось і беларускі лідар задумаў не толькі ЖКГ "аптымізаваць", але і дзяржапарат чыноўнікаў яшчэ раз скараціць ледзь ці не ў 2 разы. Цікава, што наш грозны Дзяржкантроль у пачатку года даводзіў, што колькасць упраўленцаў жылкамгаса практычна аптымальная і складае толькі 77,6 % ад штату і 63 % ад нарматыўнай колькасці і быццам спецыялістаў не хапае. Аднак неўзабаве кантралёры выявілі, што і штаты ў ЖКГ раздутыя, нягледзячы на тое, што да лета ў галіне скарацілі 1260 упраўленцаў. На гэтым не спыняцца і толькі ў беларускай сталіцы павінны будуць хутка шукаць сабе новую працу больш паўтысячы спецыялістаў.

Радавыя спажыўцы з новага года павінны будуць заняцца рэальнай эканоміяй у сваіх кватэрах, бо тарыфы на газ і электрычнасць абяцаюць зноў павысіць да іх рэальнага кошту. А тэтага нельга дабіцца без устаноўкі ў доме альбо кватэры сучаснай тэхнікі з меншым расходам электрычнасці і без элементарных энергазберагальных лямпачак. Увесь свет жыве па гэтым прынцыпе, паступова і беларусы будуць імкнуцца да таго, каб не цякла ўпустую вада з крана і не выпускалі цяпло зімой з адкрытых вокан.

## Дзень за днём

**Золатавалютныя рэзервы Беларусі летам толькі ў ліпені знізіліся болей на 200 млн. долараў, інфляцыя перавысіла гадавы прагноз. А. Лукашэнка вырашыў яшчэ раз удвая скараціць колькасць дзяржслужачых, будзе ўзмоцнены кантролем за даходамі службовых асоб і іх родных. На ўнутраны беларускі рынак пастаўкі прадукцыі з Захаду ідуць без перашкод, нягледзячы на дэмаршы Крамля. Айчыннае дадатковае харчаванне пайшло на Маскву, Санкт-Пецербург і Калініград. Для айчынных магазінаў павялічылі абавязковы пералік беларускіх тавараў. У Беларусі адмовілі ў амністыі 3,5 тысячам асуджаных і аб'явілі маштабную рэформу ЖКГ, кватплата вырасце.**

# Важнейшыя навіны свету

**Турцыя.** Пры невысокай актыўнасці выбаршчыкаў прайшлі першыя прамыя выбары прэзідэнта, на іх перамог дзеючы прэм'ер-міністр Р. Эрдаган і паабяцаў туркам перамены.

**Украіна.** Вярхоўная Рада прыняла законапраект аб санкцыях супраць Расіі, які прадугледжвае 29 мер рэагавання на пагрозы нацыянальным інтарэсам і нацбяспекі.

**Польшча.** Кампаніі польскай групы PKN Orlen павялічылі адгрузку ва Украіну бензіну пасля змяншэння паставак на ўкраінскі рынак беларускіх нафтапрадуктаў пад ціскам РФ.

**Расія.** Адыёзны віцэ-спікер Дзярждумы РФ У. Жырыноўскі адкрыта прыгразіў Польшчы і краінам Прыбалтыкі поўным знішчэннем у выніку дывановых бамбардзіровак.

**Нарвегія.** Краіна далучылася да сектаральных санкцый ЕС супраць Расіі, ад іх можа сур'ёзна пацярпець здабыча расійскай нафты і газу ў аддаленых суровых рэгіёнах.

**Англія.** Былы пасол у Расіі Родрык Брэйтуэйт заявіў, што непасрэдную адказнасць за вайну ў Данбасе нясе У. Пуцін, а мір ва Украіне павінны прынесці не прамыя перамовы.

**Азербайджан.** Прэзідэнт І. Аліеў прыгразіў Арменіі пачаць вайну пасля перастрэлак у Нагорным Карабаху і паабяцаў разбіць армян на полі бою, аднавіць там суверэнітэт.

**Арменія.** На фоне абвастрэння адносін з азербайджанцамі прэзідэнт С. Саргсян заявіў, што яго краіна ўжо сёлета восенню падпіша дагавор аб уступленні ў ЕАЭС.

**Эстонія.** Расійскі журналіст і грамадскі дзеяч Арцём Троіцкі заявіў, што "зацейнік" Пуцін замест халоднай вайны аб'явіў галодную, але чамусьці толькі свайму народу.

**Венесуэла.** На фоне дэфіцыту прадуктаў харчавання краіна ўпершыню на ноч закрыла граніцу з Калумбіяй і размясціла на мяжы 17 тысяч узброеных ваеннаслужачых.

**КНДР.** Людзі ў паніцы сталі раскупляць прадукты харчавання пасля таго, як з новай грашовай банкноты 5000 вон знік партрэт "айца нацыі" Кім Ір Сена і выраслі цэны на ежу.

**ЗША.** У сваім доме ў Каліфорніі ва ўзросце 63 гады скончыў жыццё самагубствам сусветна вядомы амерыканскі акцёр Робін Уільямс, уладальнік "Оскара", іншых узнагарод

**Расія.** Забарона на ўвоз заходняга харчавання сур'ёзна ўскладніла і так даволі няпростую абстаноўку ў анклаве – Калінінградскай вобласці, яшчэ да санкцый там адбыўся рост цэн.

**Іспанія**. У адной з клінік Мадрыда памёр першы еўрапеец, ксёндз Мігел Пахарэс, які быў інфікаваны невылечным вірусам ліхаманкі Эбола ў Ліберыі, лік яе ахвяр больш за тысячу.

**Кітай.** У заапарку горада Гуанчжоу панда ўпершыню ў свеце нарадзіла траіх малышоў, якія выжылі, гэтых рэдкіх жывёлін са слабай рэпрадукцыйнасцю засталося ўсяго 1600.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Эксперты МВФ назвалі Беларусь краінай, якая найбольш страціць у сувязі з аслабленнем эканомікі Расіі пасля заходніх санкцый, пацерпяць МАЗ, "Белгазпрамбанк".

**Брэст.** Канцэрн "Брэстмясамалпрам" супакоіў работнікаў піўзавода "Брэсцкае піва", што падчас санкцый расійскай фірма "Аазіс груп" не рыхтуе рэйдарскі захоп прадпрыемства.

**Ельск.** Практычна поўнасцю згарэла ноччу мясцовая мэблевая фабрыка, па меркаванні следчых і кіхароў райцэнтра, з-за двайнога наўмыснага падпалу, вінаватых шукаюць.

**Салігорск.** Пасол Індыі ў Беларусі М. Бхарці пацвердзіў, што яго краіну болей не цікавіць набыццё акцый "Беларуськалія", будзе зніжацца і закуп калійных угнаенняў.

**Мінск.** Ва Украіне, як папярэдзіў палітолаг А. Партнікоў, Расія прайграе, але пры Пуціне не адступіць і Крым не верне, украінцаў у спакоі рускія не пакінуць, будуць ім шкодзіць.

**Баранавічы.** Галоўнакамандуючы ВПС РФ генерал В. Бондараў пацвердзіў, што Расія гатова тут на аэрадроме разгарнуць сваю авіябазу пасля падпісання пагаднення ўрадаў.

**Мінск.** Да канца года, па разліках служб Мінсельгасхарча, Беларусь змажа паставіць у Расію больш 2 млн. тон малочных і болей 150 тыс. тон мясапрадуктаў, зарабіць 6 млрд. $.

**Каралёў Стан.** Трое маладых мясцовых хлопцаў, як устанавілі следчыя, памерлі ў ляску каля МКАД ад перадазіроўкі наркотыкаў, дваім было па 26 гадоў, а трэцяму – 35 гадоў.

**Мінск.** З 2012 года па дыскрэдытуючых абставінах, як паведаміў А. Лукашэнка, у РБ звольнілі 29 кіраўнікоў вышэйшага ўзроўню і 93 упраўленцаў з мясцовых органаў улады.

**Барысаў.** Меней тыдня прабыў на волі 18-гадовы хлопец, які ноччу напаў і абрабаваў жанчыну паблізу АЗС, зламысніку пагражае да 6 гадоў пазбаўлення волі.

**Мінск.** Ад павелічэння паставак харчавання ў Расію, як заявіў дэкан эканамічнага факультэта БДУ М. Кавалёў, Беларусь заробіць на 1 млрд. $ болей, чым у 2013 годзе.

**Брэст.** Жанчына-кантралёр на пагранпераходзе "Варшаўскі мост" з дапамогай польскіх калег адшукала 45-гадовага серба, які згубіў 7,5 тысяч еўра і дакументы на граніцы.

**Ліда.** Імклівая расце кар'ера ў мясцовага ўраджэнца, 31-гадовага Д. Пантуса, энергетыка шклозавода "Нёман", ён стаў віцэ-мэрам Гродна, праз 3 месяцы нам. старшыні Ваенпрама.

**Мінск.** З-за рэзкага падзення прадаж, найперш ва Украіне, беларускі канцэрн "Атлант" спыніў поўнасцю выпуск халадзільнікаў на сваім заводзе "Айсберг" у Смаленску.

**Жабінка.** Жыхарка райцэнтра заплаціла больш 30 млн. рублёў падаткаў і штраф, яна купіла пасля заробкаў у РФ кватэру за 260 млн., але афіцыйна не мела крыніц даходу.

# Урад павысіў з 1 верасня зарплату настаўнікам і медыкам



■ БЕЛТА

**Да 1 верасня Савет міністраў прыняў адразу дзве пастановы аб павышэнні заробкаў. Адна з іх датычыцца настаўнікаў, іншая - медыкаў.**

Так, згодна з пастановай Саўміна №818, з 1 верасня ўрад паспрабуе на педработнікаў новы падыход аплаты працы. Усіх тарыфныя стаўкі аднолькава падымаць не сталі, затое ўвялі дыферэнцыяванае павелічэнне надбавак за наяўнасць кваліфікацыйных катэгорый, як гэта загадаў зрабіць прэзідэнт, каб больш матываваць настаўнікаў.

Напрыклад, за другую кваліфікацыйную катэгорыю настаўнік з 1 верасня атрымае надбаўку ў 30% ад тарыфнага акладу, замест 15%, як было раней. За першую катэгорыю надбаўка павялічыцца з 20 да 55%, за вышэйшую катэгорыю - з 30 да 90%, за катэгорыю «настаўнік-метадыст» - з 40 да 120%.

Пастановай Саўміна павышаны таксама аклады педагагічных работнікаў, якія не ўваходзяць у сістэму дашкольнай і агульнай сярэдняй адукацыі, якім заработная плата не павышалася з 2010 года. Гаворка ідзе пра педработнікаў у дзіцячых дамах, сацыяльна-педагагічных цэнтрах, прытулках, установ спецыяльнай адукацыі, установы прафесійна-тэхнічнай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі, спецыяльныя вучэбна-выхаваўчыя і спецыяльныя лячэбна-выхаваўчыя ўстановы, установы дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі, адукацыйна-аздараўленчыя цэнтры, інстытуты развіцця адукацыі, раённыя (гарадскія) вучэбна-метадычныя кабінеты.

Кіраўнікам устаноў, педработнікаў, якія не маюць кваліфікацыйнай катэгорыі, кіраўнікам фізічнага выхавання ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі, прыёмным бацькам, бацькам-выхавальнікам прадугледжваецца павышэнне тарыфнага акладу на 10%, памочнікам выхавальнікаў - на 20%, работнікам кухні - на 10%.

Наступнай пастановай Саўміна №819 урад павялічыў заработную плату медыцынскім работнікам. Так на 60% павялічаная тарыфныя стаўкі ўчастковым тэрапеўтам, педыятрам, лекарам агульнай практыкі і лекарам-спецыялістам, якія аказваюць хуткую медыцынскую дапамогу. Усім астатнім лекарам-спецыялістам тарыфная стаўка павялічана на 50%.

На 50% таксама павялічаны тарыфныя стаўкі ўчастковым медсёстрам, памочнікам урача па амбулаторна-паліклінічнай дапамозе, медсёстрам агульнай практыкі, фельчарам, медработнікам фельчарска-акушэрскіх пунктаў і медыцынскім работнікам, якія маюць сярэднюю медыцынскую адукацыю, якія аказваюць хуткую медыцынскую дапамогу. Усім астатнім медыцынскім работнікам, якія маюць сярэднюю медыцынскую адукацыю, тарыфная стаўка будзе павялічана на 40%. Таксама на 40% павышаны тарыфныя стаўкі санітаркам хуткай (неадкладнай) медыцынскай дапамогі, астатнім санітарам - на 30%.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Сярод абласцей краіны гаспадаркі Віцебшчыны першымі выканалі дзяржзаказ па продажу збожжа і ў той жа дзень перавыканалі мільённую тону намалотаў зерня.

**Полацк.** На швейнай фабрыцы ААТ "Мона" запусцілі першую ў Беларусі сучасную аўтаматызаваную вытворчую лінію па пашыву кашуль для сілавых структур РФ і РБ.

**Орша.** Амаль у 250 млрд. рублёў абышлося будаўніцтва сучаснага Арэхаўскага льнозавода, яго новая кацельня стане працаваць выключна на адходах вытворчасці.

**Наваполацк.** Следчыя ацанілі ў 4 млрд. рублёў шкоду, нанесеную інтарэсам ААТ "Нафтан", па гэтай крымінальнай справе арыштаваны ўжо 6 службовых асоб.

**Лепель.** Пад покрывам цемры ля вёскі Чэрцы ў выніку сутыкнення аўтамабіля "Audi" з трактарам на трасе на Оршу загінулі трое хлопцаў ва ўзросце 21, 23, 25 гадоў, з іх 2 браты.

**Віцебск.** Жыхары абласнога цэнтра атрымалі магчымасць атрымоўваць пенсіі і дапамогі ў любым аб'екце паштовай сувязі "Белпошты" на тэрыторыі краіны, на чарзе – райцэнтры.

**Ушачы.** Гандлёвая інспекцыя Міністэрства гандлю РБ пры праверцы магазіна ЧТУП "Глыбочка" зняла з рэалізацыі 27 найменняў тавараў, тэрмін продажу іх скончыўся 2 гады

**Орша.** Суд пакараў 23-гадовага забойцу праваслаўнага святара айца Аляксандра 14 гадамі пазбаўлення волі, нябожчык даў прытулак у сваім доме гэтаму мярзотніку.

**Сянно.** Пры спробе перабрацца ў Польшчу затрымалі 14-гадовага хлопчыка-сірату з мясцовай школы-інтэрната, які ўцёк з аздараўленчага лагера паблізу Віцебска.

**Віцебск.** Вечарам на адной з вуліц прыватных забудоў вадзіцель іншамаркі збіў 4-гадовую дзяўчынку, якая раптам выбегла з кустоў на дарогу і трапіла з ранамі ў рэанімацыю.

**Лепель.** З-за моцнай спёкі летам нарыхтоўшчыкі райпо не змаглі сёлета адгрузіць грыбоў партнёрам у Літве і Польшчы, увесь ураджай лісічак пакінулі для ўласных патрэб.

**Мёры.** Міліцыя ў ходзе аператыўных пошукаў затрымала 18-гадовага вадзіцеля, які ў вёсцы Язна ўцёк з месца сутыкнення з апорай ЛЭП і кінуў паміраць пасажыра-сябру.

**Віцебск.** Упершыню 27 карцін Юрыя Пэна з калекцыі абласнога музея даставілі на яго радзіму, у літоўскі горад Зарасай на выставу з нагоды 160-годдзя знакамітага творцы.

**Паставы.** Па жаданні маладых аддзел ЗАГСа ўпершыню правёў урачыстую цырымонію рэгістрацыі шлюбу ля фантана з пантэонам грэчаскіх багоў у Палацы Тызенгаўза.

**Глыбокае.** Выхаванцы коннаспартыўнага клуба "Амазонкі", створанага на базе мясцовага мясакамбіната, заваявалі адразу 16 медалёў на апошнім турніры па конным спорце.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## І. Хаданёнак:

# “На мой погляд, Вы прадстаўляеце “жоўтую прэсу”

**Матэрыял Змітра Лупача “З-за сваркі з суседам жыхар Шаркаўшчыны можа пазбавіцца працы”, які быў апублікаваны ў “ВГ” №33 ад 14 жніўня гг, нечакана займеў розгалас. Першым прыйшоў допіс ад Праскоўі Шынкевіч з вёскі Гваздова. Калі верыць словам спадарыні Шынкевіч, то ў яе сітуацыя – шматкроць заблытаная, дваццаць разоў пераважыць выпадак у Шаркаўшчыне. Тут дзеючых асобаў не двое, на дзясятак пацягне! Сваеасаблівая “Санта Барбара”! Але гэта – асобная тэма!**

**Услед за гэтым прыйшоў допіс ад Івана Хаданёнка з Шаркаўшчыны, які ёсць адзін з галоўных бакоў суседскай спрэчкі, якая ўказаная ў артыкуле “З-за сваркі з суседам жыхар Шаркаўшчыны можа пазбавіцца працы”. Іван Хаданёнак просіць “абвергнуць няпраўдзівую інфармацыю Вашага артыкула і прынесці прабачэнні ў бліжэйшым нумары Вашай газеты”.**

**Што ж, спадар Іван Хаданёнак мае на тое маральнае права. Каб быў прадмет для дыскусіі і абвяржэння, а таксама прабачэння, мы змяшчаем яго допіс, які быў дасланы ў рэдакцыю “ВГ”, цалкам і без скаротаў.**

*Ул. Скрабатун.*




**Здымкі, якія даслаў сп. Іван Хаданёнак у рэдакцыю “ВГ”. Трэба разумець, яны ўказваюць на прадмет спрэчкі:** *“... убрать тридцать два дерева, посаженных по дну канавы, на границе участков на протяженности 15 метров”.*

РЕДАКТОРУ
СКРАБАТУНУ В.И.

В Вашей газете «Вольнае Глыбокае» №33 (749) от 14 августа 2014 года допущено грубое искажение фактов в статье «З-за сварки з суседам жыхар Шаркаушчыны можа пазбавіцца працы».

Отдельные вопросы опущены, другие – перефразированы. Констатация фактов на месте происходило в одностороннем порядке. Благодаря Вашему корреспонденту Зміцеру Лупачу, который в любом бытовом конфликте видит политический вопрос – истина его не интересует, ему нужен высокий рейтинг издания, в результате, происходит дискредитация издания в глазах читателей.

Далее, по тексту издания:

Мой факт работы в Агротехсервисе не представлен – моя должность начальник автотранспорта и мехотряда, по штатному расписанию я подчинялся главному инженеру, зам.директора и директору. В то время, когда Артимович Л.О., находясь на должности инженера по охране труда и технике безопасности (и по настоящее время), согласно штатного расписания, подчиняется лишь директору. Возникает вопрос – у кого большее служебное влияние. Почему-то Ваш корреспондент не указал должности и их значение. Причем здесь какие-то связи?

На звонок Вашего корреспондента я ответил: **«У меня было два вопроса – убрать тридцать два дерева, посаженных по дну канавы, на границе участков на протяженности 15 метров (высокорослые – дуб, ясень, клен). Второй вопрос – разрешить мне установить забор из металлопрофиля высотой 1.7 метров. Больше никаких вопросов у меня нет ни к кому!**

Что касается тридцатилетних яблонь (замечу – научитесь считать – не три!) Я при присутствии комиссии райисполкома просил не трогать эти яблони соседа, они никому не мешают. Следовательно, это очередная ложь.

Какой технический кодекс, упомянутой в Вашей статье (№ от какого числа и года), содержание курей запрещено ближе 4 метров от чего? Уточните!

Что касается защиты прав работников, которыми пытаетесь манипулировать на фоне Хельсинского Соглашения, чтобы оправдать Артимовича Л.О., скажу Вам следующее: если виновный получил выговор на работе (согласно Вашей статьи), значит заслужил. Ему нет времени работать по должности, пишет жалобы и бегает по кабинетам.

Что касается Украины (согласно Вашей статьи) – это не Ваш вопрос! Из-за таких подстрекателей – там беда!

На мой взгляд, Вы представляете «желтую прессу», лозунг которой – чем хуже там – тем лучше нам.

Не обижайте других! Вас будут уважать.

На основании вышеизложенного прошу опровергнуть недостоверную информацию Вашей статьи и принести извинения в ближайшем номере Вашей газеты.

С уважением.

И.Э.Ходаненок.
21 августа 2014 года

Што праўда, згодны са спадаром Хаданёнкам, не люблю я і сам даваць інтэрв'ю, напрыклад, БелСАТу ці Радыё Свабода. Выражуць 90 працэнтаў сказанага, змантуюць на свой адум, важнае апусціць, а нешта дробязнае паставяць за важнае. Колькі заракаўся…

Я ўпэўнены, калі 10 журналістам даць заданне напісаць артыкул на тэму суседскай спрэчкі паміж спадарамі Хаданёнкам і Арцімовічам, то ў выніку будзе 10 розных артыкулаў. І не важна, пісаў бы гэты артыкул карэспандэнт “Вольнага Глыбокага” ці “СБ-Сегодня”. У адным выпадку быў бы задаволены сп. Хаданёнак, у іншым – сп. Арцімовіч.

Мы ніколі не ставілі за мэту кагосьці пакрыўдзіць, заўсёды імкнуліся паказаць два розных погляды на пэўную спрэчку ці канфлікт. Аднак, не важна, якая газета апублікавала б праблемны матэрыял, заўсёды будзе розгалас. Адзін з бакоў будзе папракаць, што яго не так пачулі, не так зразумелі, нешта не дапісалі. Таму, са свайго боку, **ПЕРАПРАШАЕМ** сп. Івана Хаданёнка, калі з ягонага пункту гледжання, яго пазіцыя ў суседскай спрэчцы – намі, у вышэйзгаданым артыкуле, не цалкам адлюстравана.

Накont іншага… На 16-й паласе нашай газеты напісана: ***“Меркаванні выдаўца і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары матэрыялаў нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор фактаў”.*** Таму, колькі метраў (чатыры, ці болей) мусіць быць куратнік ад суседскага ўчастка, пытанне хутчэй да сп. Арцімовіча. Дзе ён такое прачытаў, ці хто яму сказаў? Са свайго боку хачу заўважыць, што па суседству трэба жыць дружна! Вось, напрыклад, мая суседка папрасіла аўтара гэтых радкоў спілаваць сліву, якая навісае над яе гародам. Я спілаваў чатыры! І гэтыя слівы я не садзіў, садзілі колішнія гаспадары дома, у якіх мы яго і купілі ў 1998 годзе.

Адносна “Хельсинского Соглашения”… Напэўна, Вы мелі на ўвазе Беларускі Хельсінскі Камітэт(БХК)? Гэтая праваабарончая арганізацыя не з'яўляецца падраздзяленнем “Вольнага Глыбокага”, таму мы аніяк не можам маніпуляваць “абаронай правоў працоўных”. Калі ў Вас, шаноўны сп. Іван Хаданёнак, будуць пытанні з абаронай Вашых правоў, звяртайцеся ў БХК.

Пра “жоўтую прэсу”… Жоўтая прэса піша пра тое – з кім спіць тая ці іншая суперзорка эстрады, колькі мае пазашлюбных дзяцей “на старане”. Самае дзіўнае – гэтыя суперзоркі не падаюць у суд на выданне за няпраўдзівасці фактаў, г.зн. “жоўтыя” матэрыялы заказаныя ў газетах самімі зоркамі, каб падвысіць сваю папулярнасць сярод прыхільнікаў іхняй творчасці.

Натуральна, падзеі ва Украіне не маюць дачынення да спрэчкі двух суседзяў у Шаркаўшчыне. І гэта пытанне можна было б абысці, але Вы пішаце: ***“Что касается Украины – это не Ваш вопрос! Из-за таких подстрекателей – там беда!»***

А вось тут я з Вамі не пагаджуся! Прабачце! Ва Украіне ідзе вайна паміж прарасійскімі бандфармаваннямі, якія пранікаюць з Усходу – з аднаго боку, і міліцыянтамі і жаўнерамі ўкраінскай арміі – з іншага. Усё гэта, крый Божа, можа перарасці ў трэцюю сусветную вайну, дзе і нам, беларусам, перападзе, – «Мама, не гаруй!». Я прынцыпова не гляджу расійскае тэлебачанне, проста, разумею, што ідзе не толькі рэальная вайна з сотнямі загінулых штодня, але ідзе і інфармацыйная вайна. Я не лічу сябе аб'ектам інфармацыйнай вайны, а – суб'ектам. Г.зн. сам здабываю інфармацыю з розных крыніц: сайтаў і тэлеканалаў. А там – зусім адрозная інфармацыя, чытаем загалоўкі:

- «Пскоўскія дэсантнікі паехалі ваяваць ва Украіну пасля параду ў Мінску»;
- «Новые бои на границе Украины: в Донбасс прорвались российские БМП";
- "Батальон «Айдар» уничтожил банду диверсантов-мародеров из России";
- "СБУ: Люди Жириновского готовили теракты в Киеве";
- "NATO: Расія перакідвае артылерыю ва Украіну";
- "Ця війна увійде в історію як вітчизняна війна 2014 року – повний текст промови Порошенка"
- "Гэта не наша вайна: ваеннапалонныя расійскія дэсантнікі заклікалі Пуціна спыніць адпраўляць войскі ва Украіну".

Досыць!...

І ў рэшце рэшт, і я і мае калегі, вялікая частка беларускага народу, жадае толькі аднаго – украінскаму народу выстаяць і перамагчы, а Украіне стаць моцнай дзяржавай!

Ацяпер – самае важнае. Вялікі дзякуй сп. Івану Хаданёнку за допіс і ўдакладнне фактаў адносна апублікаванага матэрыялу **“З-за сваркі з суседам жыхар Шаркаўшчыны можа пазбавіцца працы”.**

# Вясны няма, лета трапічнае: як змяніўся клімат у Беларусі за апошнія гады і што з гэтым рабіць

**Сельскагаспадарчым арганізацыям Беларусь трэба звярнуць увагу на змяненне клімату і пераарыентаваць сваю работу, лічыць начальнік службы гідраметэаралагічных прагнозаў Рэспубліканскага гідраметцэнтра Дзмітрый Рабаў.**

На прэс-канферэнцыі 20 жніўня ён адзначыў павелічэнне колькасці засух, асабліва ў паўднёва-ўсходніх рэгіёнах краіны. «Сельскагаспадарчым арганізацыям неабходна звярнуць на гэта ўвагу і вырошчваць тыя культуры, якія менш схільныя да засух, — адзначыў Рабаў. — І ў сувязі з тым, што павялічылася колькасць залеваў і падтапленняў, высаджваць іх не ў нізінных месцах, а на больш узвышаных. На жаль, ад граду пакуль ратавання няма».

Паводле слоў сіноптыка, з 1989 года ў Беларусі назіраецца працяглы цёплы перыяд, і, паводле звестак розных вучоных, сярэднегадавая тэмпература паветра будзе расці і далей, што, у сваю чаргу, прыводзіць да павелічэння небяспечных з'яў надвор'я.

Калі раней у краіне былі вызначаны тры агракліматычныя зоны, то цяпер гэтае дзяленне мяняецца. «Паўночная зона разбурылася, і ў раёне Палесся пачала фарміравацца новая. Можна сказаць так, што клімат змясціўся з Украіны на поўнач прыкладна на 100 км», — адзначыў Рабаў.

Ён таксама падкрэсліў, што апошнім часам у Беларусі адбылося змяшчэнне сезонаў. «Пра анамальныя зімы нагул гаварыць не даводзіцца. Самая нізкая тэмпература была ў нас у далёкім 1942 годзе — мінус 40°С. Цяпер кароткія халодныя перыяды, калі тэмпература ў асноўным мінус 20-30°С, — гэта звычайная справа. Зімы сталі больш мяккімі і не такія снежныя, калі не ўспамінаць «Хаўер»,– расказаў сіноптык.

Акрамя таго, паводле слоў Рабава, скарачаецца вясновы сезон. «Класічнай вясны, калі прырода павольна ажывае, ужо няма ў апошнія гады — хуценька ўсё растае, хуценька ўсё расцвітае. Апошнімі гадамі, пачынаючы з другой паловы красавіка, ужо стаціць у большай ступені чэрвеньскае надвор'е», — сказаў ён.

Лета, паводле слоў сіноптыка, наадварот, зрабілася больш працяглым. «У летні перыяд апошнімі гадамі праяўляюцца прыкметы трапічнага клімату, гэта значыць, стаіць вельмі цёплае вільготнае надвор'е. Калі гаварыць пра ападкі, то за лета іх колькасць не вельмі павялічылася, але павялічылася колькасць моцных ліўняў», — расказаў Рабаў.

*БелТА.*

# У Алашках адкрылі дом-музей Івана Сікоры

**У суботу 23 жніўся ў Малых Алашках, што ў Шаркоўшчынскім раёне, адбылося святкаванне Яблычнага Спаса.**

■ **Зміцер Лупач,** *тэкст і фота*

У гэтым годзе свята прайшло ў шаснаццаты раз, а ўпершыню яно адбылося ва ўжо далёкім 1999 годзе. У гэтым годзе яно атрымала статус агульнабеларускага.

Свята пачалося а дзясятай гадзіне раніцы з правядзення фіналу раённага конкурсу "Уладар сяла". Ну а само свята распачалося ў поўдзень. Адкрыў свята старшыня шаркаўшчынскага райвыканкама Мікалай Баговіч. Прысутнічалі на святе і замежныя госці – выконваючы дырэктар краёвай Думы горада Даўгаўпілс Ванда Кезік і дэпутат краёвай Думы Інара Натарава. Каб не прыехаць на свята з пустымі рукамі, яны прывезлі з сабой латышскую яблыньку, якую і ўручылі Мікалаю Баговічу разам з рыдлёўкай. Гэта яблынька будзе расці ў сікораўскім садзе.

Пасля адбылося асвячэнне яблыкаў новага ўраджаю. Яго правялі праваслаўныя святары Пётр Бараноўскі і Віктар Валашчук. Пасля асвячэння пладамі пачаставалі ўсіх гасцей свята.

Галоўным момантам свята стала ўрачыстае адкрыццё дома-музея Івана Паўлавіча Сікоры. Гэты дом, які ў 1924 годзе садавод пабудаваў сваімі рукамі, гадоў пятнаццаць таму хацелі разабраць на дровы. Выратавала яго ад разбурэння жыхарка Германавічаў Ада Райчонак. Яна з дапамогай грамадскасці выкупіла яго, захавала і ў мінулым годзе перадала яго дзяржаве.

Чырвоную стужку перарэзалі кіраўнік раёна Мікалай Баговіч і дырэктар сікораўскага музея Наталля Перхуровіч. Пасля гэтага святар асвяціў дом і ўнёс у яго ікону. Супрацоўнікі музея зладзілі для прысутных экскурсію па адноўленым доме садавода. У музеі змясцілі копію партрэта Льва Талстога, з якім Іван Паўлавіч вёў перапіску. Арыгінал партрэта захоўваецца ў сваякоў садавода. Гэты партрэт з аўтографам знакаміты пісьменнік даслаў будучаму садаводу ў 1907 годзе.

Ніна Брэсцкая, якая ў свой час працавала пад кіраўніцтвам Івана Паўлавіча, падаравала для музея кнігу з аўтографам садавода, якую той уручыў ёй за добрую працу. А Ада Райчонак перадала ў музей тэчку з пісьмамі знакамітага садавода, якую яна шмат год захоўвала ў сябе.

На свяце было шмат музыкі, песень, конкурсаў, паэты чыталі свае вершы. А жыхар суседняй Жукоўшчыны Язэп Квач прачытаў цэлую паэму пра касцоў, у якой назваў усіх мужчын навакольных вёсак, што яшчэ нядаўна жылі тут. Завіталі на свята ў якасці ганаровых гасцей і ўнукі Івана Сікоры Пётр і Андрэй.

Госці маглі пакатацца на коннай павозцы, на ладдзі па возеры, пачаставацца шашлыкамі. Дарэчы, кошты на іх прыемна ўражвалі гасцей з Мінска. Свята працягвалася да позняга вечара.



**Сваю паэму чытае Язэп Квач.**

***

Іван Сікора (1885–1966) — селекцыянер-аматар, які вывеў каля 500 гатункаў яблыні, каля 100 — ігрушаў, больш за сто формаў ляшчыны, а таксама гатункі слівы, бэзу, ружаў і іншыя. Сын Івана Сікоры Віктар (памёр у 2008 годзе) — удзельнік антысавецкага руху ў пасляваеннай Беларусі.




# Лучайскаму фэсту не перашкодзіў нават дождж



**У нядзелю, 24 жніўня, у лучайскім касцёле маліліся за тых, хто вучыцца, і за тых, хто навучае.**

■ **Зміцер Лупач,** *тэкст і фота*

У лучайскай святыні сабралася шмат моладзі і настаўнікаў. Нават не верылася, што ў вёсцы, дзе не так даўно зачынілі школу, можа быць столькі моладзі. Але на свята завітала моладзь не толькі з вёсак лучайскай парафіі, але і з Варапаева, Паставаў, Глыбокага, нават з Мінска. Ну і вядома, падтрымаць свайго земляка-святара прыехалі вернікі з Шаркоўшчыны.

Казанне да вернікаў прамовіў ксёндз-пралат Павел Кнурэк з Лынтупаў. Ён у вельмі даступнай форме, на жыццёвых прыкладах, часам з гумарам, растлумачыў вернікам значэнне словаў малітвы "Ойча наш!" «Калі мы звяртаемся да Бога – Ойча наш, значыць, мы з'яўляемся дзецьмі Божымі, таму для нас – Бог павінен быць на першым месцы,» – сказаў святар. Асаблівую ўвагу ён звярнуў на тое, каб маладыя людзі не сароміліся сваёй веры, каб вызнавалі яе адкрыта. Ён таксама звярнуўся і да бацькоў, каб яны былі ў гэтым добрым прыкладам сваім дзецям.

Моладзь спявала пад гукі старога аргана, на якім іграў семінарыст з Шаркоўшчыны Яўген Хаданёнак. Трэба адзначыць, што ён вельмі добра валодае гэтым музычным інструментам, за што і атрымаў падзяку ад свайго земляка-святара.

Напрыканцы набажэнства адбылося асвячэнне школьных прыладаў, а потым кожны з вучняў і настаўнікаў атрымаў з рук святара Божае бласлаўленне на будучы навучальны год.

Пасля Імшы адбыўся канцэрт, які працягваўся некалькі гадзін, нягледзячы на дождж. У канцэрце прынялі ўдзел як тыя артысты, што ўжо не адзін раз тут былі, так і тыя, хто наведаў Лучай упершыню. Вядучы канцэрта быў артыст Мікіта Фаміных, які працуе ў студыі Ядзвігі Паплаўскай і Аляксандра Ціхановіча.

Адкрыў мерапрыемства бард Аляксей Жбанаў, які выканаў гімн Лучая. Ён пажартаваў, што можа праз час забудуцца яго заслугі перад беларускай культурай і яго будуць памятаць як аўтара лучайскага гімну, што таксама нядрэнна. Бард выканаў яшчэ некалькі сваіх песень, пасля чаго канцэртная эстафета перайшла да гурта "Рэха" з Андрусём Такінданганм.

Гэты гурт ужо добра ведаюць у Лучаі, бо выступаў ён тут не адзін раз. Сваімі песнямі Андрусь завёў публіку, шмат хто кінуўся танцаваць, нягледзячы на дождж, які ў гэты дзень амаль не спыняўся. Адметна і тое, што некаторыя творы прагучалі ў выкананні гурта ўпершыню менавіта на свяце ў Лучаі.

Пасля "Рэха" на свяце выступілі бард Раман Абрамчук і гурт «Гарадзкі вал». Яны прыехалі ў Лучай упершыню, але хочацца спадзявацца, што не апошні раз.

Напрыканцы выступілі Мікіта Фаміных і "залаты акардэон Беларусі" Дзмітрый Корсак. Яны не толькі разам вучыліся, але з'яўляюцца таксама і сябрамі. Дзмітрый Корсак прыехаў у Лучай другі раз пасля свайго непераўгоднага поспеху на фэсце ў гонар святой Ганны месяц таму. Не сакрэт, што шмат хто не разыходзіўся, а цярпліва пад даждом чакаў выступлення музыкі. І варта адзначыць, што Дзмітрый цалкам апраўдаў чаканне публікі. Сцямнела, ішоў дождж, людзі прамоклі, але шмат хто танцаваў на прыкасцельным пляцы.

Ну а закончылася свята, як і ў мінулы раз, феерверкам.

Наступнае свята ў Лучаі адбудзецца 25 кастрычніка, яно будзе праводзіцца ў гонар Апостала Тадэвуша, чыё імя носіць касцёл у Лучаі. Таму, карыстаючыся нагодай, запрашаем усіх на свята.



